# „heAvar“

## “Мінулае”

## 1968

## Роспісы сінагогі ў Магілёве на Дняпры

**Рахэль Вішніцэр**

**(пераклад з іўрыта А./Д. Лісоўскі)**

Першае ўзгаданьне малюнкаў сінагогі ў Магілёве на Дняпры ўзьнікла ў 1914 г. ў кнізе "Гісторыя габрэяў Расеі"[1]. Артыкул пра Магілёў у расейскай "Габрэйскай энцыклапедыі", 11-ы том, які быў апублікаваны пасьля таго, не ўтрумлівае зусім нічога пра тую драўляную сінагогу. Будынак сінагогі, намаляваны там, быў пабудаваны ў 19-м ст., а запіс 1700 года, які ўзгадваецца там менавіта адносна гэтай сінагогі, памылковы. Высьветлена, што аўтар паблытаў 2 сінагогі. Усё, што мы ведалі ў 1914 г. адносна роспісаў у той драўлянай сінагозе, гэта, што яны пакрывалі паверхню купала, і адзіны здымак, які быў у нашым распараджэньні, паказваў надпісы ў арнаментнай рамцы на малюнку львоў і птушак[2].

Так было, пакуль на пачатку 20-х гадоў мастак Эліэзэр Лісіцкі, які належыў да плыні "канструктывістаў", не прывёз у Берлін копіі роспісаў магілёўскай драўлянай сінагогі, якія ён скапіраваў падчас візыта ў Магілёў і яго ваколіцы ў 1916 г. разам з мастаком Іссахарам Бэрам Рыбаком.

З артыкула надрукаванага ў "Гісторыі габрэяў Расеі" вядома таксама пра сінагогу ў мястэчку Копысь (Капуст) ў тых ваколіцах, якая таксама была ўпрыгожаная роспісамі[3]. Калі ён //*Э. Лісіцкі*// прыбыў у Магілёў, яму сказалі, што сінагога ў Копысі згарэла. Копіі Лісіцкага былі апублікаваныя ў 1923 г. у "Рымоне" на іўрыце і ў "Мілгройме" на ідыш[4]. З яго апісаньня роспісаў столі сінагогі атрымліваецца вельмі добрае ўяўленьне аб іх прыродзе. У ніжняй частцы, каля ніжняга края купала былі 2 вялікія выявы. Зьверху, у сярэдняй частцы, было кола надпісаў у строга ўпрыгожаных медальёнах, а вяршыня купала была каранаваная дыскамі, з выявамі сузор'еў у іх. Кожная частка паверхні купала была пакрытая перапляценьнямі акантаў (acanthus), на фоне якіх былі кветкі. Малюнак на паўночным баку купала //*на паўночна-ўсходнім*// – перапляценьне вежаў і званіц з рускімі навершамі накшталт цыбулін. Над малюнкам, вельмі высокім, напісана "Вормс", што азначае горад Вормс у Германіі. Пад гарадскім мурам ляжыць вялікі цмок. Горад аточаны дрэвамі, і над самым вялікім дрэвам зправа подпіс: "дрэва жыцьця" (малюнак 1).

---

[1] Р. Бернштайн-Вішнецэр. Мастацтва габрэяў Польшчы і Літвы (па расейску) у "Гісторыі габрэяў Расеі", пад рэдакцыяй А.І. Бройдэ і інш., Масква 1914, ст. 392

[2] таксама там, устаўка насупраць ст. 392

[3] таксама там, малюнкі на ст. 393-394

[4] Э. Л. Лісіцкі пра магілёўскую сінагогу "Рымон", №3 1923, ст. 9-12; "Мілгройм", №3 1923 ст. 9-13

На поўдні //*на паўднёвым-захадзе*// купала бачны каўчэг на калёсах, які стаіць сярод неглыбокіх водаў, па якім плаваюць рыбы і гусі, а вакол іх лётаюць птушкі. Зправа ад каўчэга стаіць дрэва, а над ім надпіс "дрэва розуму" (малюнак 2) //*гэтае дрэва ніяк не падпісанае, а дрэва розуму намаляванае насупраць "дрэва жыцьця" на паўночна-ўсходнім баку, каля выявы Ерусаліма*//, а зьлева ў вадзе – караблі з ветразямі (малюнак 3). Буслы і зьмеі гняздуюцца на "дрэве розуму" //*проста на дрэве, а на "дрэве розуму" намаляваны зьмей з этрогам у пашчы*//, і бусліха маці нясе яшчэ большага зьмея.

Надпіс намаляваны на шыльдах, на заходнім баку купала, над уваходам у сінагогу, утрымлівае імя майстра: Хаім сын Іцхака Айзэка Сегал з Слуцка, і зашыфраваны год 1740.

Лісіцкі тлумачыў выяву Вормса як "пракляты горад", а каўчэг насупраць яго як сімвал Ерусаліма[5] //*памылка аўтара, бо Лісіцкі ў сваім артыкуле апісваў выяву Ерусаліма, адпаведна падпісаную, побач з выявай Вормса*//. Ён не ўзгадаў лодку, здаецца ненаўмысна, і таксама нічога не сказаў пра буслоў і іх сэнс.

Новае сьвятло на выяву Вормса праліў нямецкі дасьледчык, Айзэк Кранцбюлер з Горштадта[6]. Ён напісаў кнігу па Песьні Нібелунгаў, і некалькі яго сяброў габрэяў зьвярнулі яго ўвагу да выявы Вормса ў "Рымоне". У 1927-м годзе д-р Макс Дынман, равін Офэнбаха, напісаў д-ру Марку Вішнецэру, рэдактару часопісаў "Рымона", і перадаў яму просьбу д-ра Кранцбюлера, дазволіць яму апублікаваць выяву Вормса ў яго кнізе[7]. Кранцбюлер памёр у 1928-м годзе, а яго кніга выйшла ўжо пасьля яго сьмерці ў 1930-м годзе. Там былі надрукаваныя выява Вормса і ўрыўкі з "Рымона". З дасьледваньняў Крацнбюлера мы даведаліся, што выява цмока ўказвае на зьмея альбо велізарнага чарвяка – "ліндвурм" у нямецкай міфалогіі. Народная нямецкая этымалогія бачыла ў назве горада Вормс памяць пра "ліндвурма". Зігфрыд, герой з Песьні пра Нібелунгаў, забіў "ліндвурма" ў Вормсе і выратаваў прыгажуню Крымгільду, і ажаніўся з ёй[8].

Кранцбюлер узгадаў іншую версію падзеі з "ліндвурмам" – з габрэйскіх крыніц. Яна знаходзіцца ў кнізе "Цудоўныя гісторыі ад Іфтаха Юзфа Шамеса з Вормса" (друкарня Бэн Якава, 1876), які жыў у 1604-1678 гг. //*Juspa Schammes*//. Сярод розных гістарычных апавяданьняў распавядаецца пра забойства пачвары пад назвай "ліндвурм" іншым чынам. Цмок ляжаў і чакаў каля мура горада Вормса, і штодня яму кідалі жыхара горада, паводле жрэбія, каб ён не разбурыў горад. Калі жрэбій выпаў на прынцэсу, адзін слесар вырайшыў пайсьці замест яе. Ён зрабіў сабе шчыт аздоблены вострымі шыпамі. Ён кінуў яго цмоку, і той праглынуў яго і падох. А слесар застаўся некранутым. Ён ажаніўся з прынцэсай і назваў горад Вормсам ад назвы "ліндвурма". Пасьля таго, ён называўся Варміза, і так ён называецца ў раньніх габрэйскіх крыніцах[9].

Паводле адкрыцьцяў Кранцбюлера ўдакладнілася сувязь паміж гэтым горадам і цмокам. Не высьветлены застаўся сэнс выявы ў сінагозе і таксама не зразумела,

---

[5] Мілгройм, ст. 22, каўчэг, які сімвалізуе каўчэг Ноаха. Глядзі Р. Вішнецэр "Месіанскія матывы ў роспісах сінагогі ў Дура" (па ангельску), Чыкага 1948, ст. 64, 85, малюнак 29.

[6] А. Кранцбюлер, Вормс у гераічных сагах (па нямецку) пад рэдакцыяй Ф. М. Эйлерта, Вормс 1930.

[7] Ліст ад 8.10.1927. Адказ Вішнецэр быў ад 20.10. Гаворка ішла пра рэдакцыю кнігі Кранцбюлера, які, здаецца, не ведаў крыніцу малюнка ў Магілёве, і не ўзгадаў ані "Рымон", ані мастака Лісіцкага.

[8] Кранцбюлер, таксама там, ст. 84, 100, 120.

[9] Таксама там, ст. 6, 109.

чаму гэтая выява знаходзіцца менавіта насупраць Ерусаліма, і такім чынам яна сімвалізіруе грэшны горад. Здаецца, горад Вормс быў тэрарызаваны цмокам без аніякага граха за сабой, то чаму яго намалявалі як сімвал злачынства? Аднак у кнізе "Цудоўныя гісторыі" Іфтаха Юзфы Шамеса мы знаходзім апавяданьне, якое кідае цень на Вормс, і тым больш на габрэяў Вормса. Аўтар вяртаецца да падзей мінулага і распавядае нам, як габрэі былі выкупленыя з Вавілонскага выгнаньня, дзе правялі 70 год, і вярнуліся ў Ерусалім. Габрэі, якія жылі ў Вормсе – распавядае Юзфа – не вярнуліся ў Сьвятую зямлю і засталіся ў Вормсе. Жыхары Ерусаліма напісалі габрэям Вормса, каб яны пакінулі выгнаньне і вярнуліся ў Зямлю Ізраіля. Паколькі Вормс знаходзіцца далёка ад Сьвятой Зямлі – напісалі жыхары Ерусаліма – вы не можаце зьяўляцца тройчы на год на сьвяты, як таго патрабуе закон, таму на вас ляжыць абавязак перасяліцца ў Сьвятую Зямлю. Адказам жыхароў Вормса было: вы жывеце ў вялікім Ерусаліме, а мы жывем у малым Ерусаліме. Мы знаходзімся ў добрых адносінах з уладамі і нашымі суседзямі негабрэямі, і наша становішча даволі добрае. Аўтар робіць вынік, што цяжкія выпрабаваньні, якія былі наканаваныя грамадзе Вормса, прыйшлі ў якасьці пакараньня за адмову пакінуць выгнаньне[10].

Пасьля таго, як былі растлумачаныя асноўныя элементы роспісаў, зразумела, што лодка сімвалізуе вяртаньне ў Сьвятую Зямлю, якое жыхары Вормса адмовіліся зрабіць.

Усё яшчэ не зразумелы сэнс дрэваў жыцьця і розуму, якія, здаецца, маюць нейкую сувязь з дзьвума гарадамі.

З Бэ-рэйшыт 2:9 мы ведаем, што дрэва розуму, гэта забароненае дрэва. На нашым малюнку, яно знаходзіцца побач з бусламі //*памылка, якая ставіць пад пытаньне ўсе далейшыя гіпотэзы*//. Бусел, відаць, зьяўляецца сімвалам пабожнасьці. Такім чынам мастак вырашыў надаць гэтаму дрэву пазітыўны сэнс. Зьмей адлюстроўвае левіятана. Паводле месіянскай веры, для пабожных людзей у Будучым сьвеце будзе падрыхтавана застольле з мясам левіятана[11]. Паскольці мастак сімвалізаваў пабожнага чалавека на дрэве розуму, то ён надаў гэтаму дрэву пазітыўны сэнс. Ён кіраваўся паводле традыцыі з старажытных кніг, напісаных пасьля Пісаньня. Узвялічваньне дрэва розуму знаходзіцца ўжо у апошніх пісаньнях у кнізе Ханоха. Там распавядаецца, як пасьля выгнаньня Адама і Хавы з Эдэнскага саду за тое, што яны елі ад плода гэтага дрэва, "елі пабожныя ад яго і атрымалі шмат розуму". Плады розуму і мудрасьці захоўваюцца для пабожных людзей, як узнагарода за іх пабожнасьць. У кантрасьце з дрэвам розуму дрэва жыцьця мае негатыўны сэнс. Яго разьмяшчэньне разам з Вормсам паказвае на месца габрэйскіх жыхароў горада.

Мы бачым, што ў дрэва жыцьця ёсьць вялікія плады, падобныя да сасновых шышак. Шышкі сімвалізуюць марнасьць гэтага дрэва, сімвал габрэйскай грамады, якая абрала выгнаньне.

---

[10] Я карысталася "Цудоўнымі гісторыямі" выданьня 1723 г. Амстэрдам, ст. 57. Мая падзяка пану Найгеру з бібліятэкі "Hebrew Union College" у Цынцынаці, які перадаў мне копію з арыгінала. Д-р Шлома Айдльберг па вялікай дабраце дапамог мне з чытаньнем літар дойч-пяцікніжжа з гэтай кнігі, які ёсьць перакладам з іўрыта на ідыш ад зроблены сынам аўтара, Эліэзарам Ліберманам. Першае выданьне кнігі на іўрыце выйшла ў Франкфурце на Майне ў 1842 годзе //*відавочна памылка, бо кніга выйшла ў 1642 г.*//. Першае выданьне пераклада выйшла ў Амстэрдаме ў 1646 годзе.

[11] Адносна левіятана глядзі апошнія пісаньні, Эзра, і Бава Батра стр. 74-75.

Крок за крокам высьвятляюцца літаратурныя крыніцы роспісаў магілёўскай сінагогі. Мастак Нахум //*Хаім*// Сегал, відаць, сустракаў кнігу “Цудоўныя гісторыі” і тлумачэньні пра дрэва розуму ў кнігах, што былі зробленыя пасьля Пісаньня. Дрэва розуму лічыцца дрэвам, якое дае слаўныя плады, як напрыклад фінікі, гарэхі, вінаград альбо ябылкі[12]. Розум, якога напачатку баяліся, робіцца вельмі важным. У сярэднявеччы розум стаў тым, да чаго імкнуліся пабожныя людзі, а абыякавае стаўленьне да вышэйшых мэтаў было тым, да чаго імкнулася нікчэмнае жыцьцё невукаў. Юзфа Шамес, сонца, якое закацілася, суцешыў, відаць, сваёй кнігай дабро і зло ў галавах грамады Вормса. Хаім Сегаль, які скарыстаўся гэтым прыкладам адносна становішча свайго часу, пайшоў па яго сьлядох.

[12] Пра дрэва розуму глядзі Бэ-рэйшыт Раба 15:6. Глядзі таксама ў Леві Гінзбурга, Габрэйскія паданьні (па ангельску) Філадэльфія 1942, том 5, нататка 70. За гэтыя дакументы нам трэба падзякаваць праф. Боаза Когана.



Малюнак 1 – сінагога ў Магілёве. Выява горада Вормса з цмокам каля мура. Дрэва жыцьця зправа ад яго.



Малюнак 2 – сінагога у Магілёве. Каўчэг, які сімвалізуе Ерусалім. Дрэва розуму зправа ад яго.



Малюнак 3 – сінагога ў Магілёве. Карабель з ветразем.



Малюнак 4 – сінагога ў Магілёве. Подпіс мастака.